# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

1931

СЬНЕЖАНЬ

№ 24



НІЖАГАРОДЗКІ АЎТАЗАВОД УСТУПІЎ У СТРОЙ
МЭХАНАЗБОРАЧНЫ ЦЭХ АЎТАЗАВОДА

АДДЗЕЛ ПАДПІСНЫХ І ПЭРЫОДЫЧНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ

# ПАДПІШЫСЯ на 1932

на адзіны ў БССР ілюстраваны двухтыднёвы часопіс тыпу лепшых ілюстраваных часопісаў СССР

# Чырвоная Беларусь

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МІХАСЯ ЧАРОТА

## У „Чырвонай Беларусі" на працягу 1932 г. будуць зьмешчаны:

**Апавяданьні:** С. Баранавых, Ул. Барашкі, З. Бядулі, А. Вольнага, Т. Гушчы, Ц. Гартнага, П. Галавача, Даўгапольскага, М. Зарэцкага, В. Каваля, Э. Кагана, Р. Кальтофэн, М. Кальтофэн, М. Лынькова, Я. Ліманоўскага, Р. Мурашкі, Маўра, М. Нікановіча, Нёманскага, М. Чарота, К. Чорнага, Швэйдэля і інш.

**Поэмы і вершы:** А. Александровіча, З. Астапенкі, С. Астрэйкі, М. Багуна, Бацюшкава, Я. Бобрыка, П. Броўкі, А. Звонака, Я. Купалы, Я. Коласа, К. Крапівы, С. Ліхадзіеўскага, М. Лужаніна, Юр. Лявоннага, В. Маракова, С. Нортмана, Ю. Таўбіна, І. Харыка, Ул. Хадыкі, М. Хведаровіча, М. Чарота, С. Шушкевіча і інш.

**Нарысы і фэльетоны:** М. Аляхновіча, Бэндэ, С. Бэрнара, С. Гюгера, А. Вольнага, В. Вольскага, Ф. Выхадцава, Ц. Зарэчнага, Б. Мікуліча, Мяжэвіча, Ал. Некрашэвіча, М. Пасьлядовіча, Я. Скрыгана, В. Сташэўскага, Шкадарэвіча, Хв. Шынклера, Ус. Шыдлоўскага і інш.

**Малюнкі і фото:** Ахрэмчыка, Азгура, Бразэра, Волкава, Гаўрыленкі, Заборава, Давідовіча, Кіпніса, Мазэлева, Малкіна, Пашкевіча, Семянякі, Салавейчыка, А. Тычыны, М. Філіповіча і цэлага шэрагу раённых корэспондэнтаў.

## „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ" ДАЕ Ў ГОД:

звыш 1000 фотоздымкаў, якія ілюструюць соцыялістычнае будаўніцтва СССР і БССР, а таксама замежнае жыцьцё, звыш 300 малюнкаў лепшых мастакоў, звыш 200 апавяданьняў, вершаў і нарысаў.

## „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ"

на сваіх старонках адлюстроўвае соцыялістычнае будаўніцтва БССР і СССР, практыку герояў пяцігодкі, аддае вялікую ўвагу соцыялістычнаму спаборніцтву і ўдарніцтву, соцыялістычнай перабудове вёскі, шырока асьвятляе разгортваньне культурнай рэволюцыі, жыцьцё мастацтва, тэатру, кіно і інш.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| На 1 год | | На 6 мес. | | На 3 мес. | |
|---|---|---|---|---|---|
| р. | к. | р. | к. | р. | к. |
| 3 | 60 | 1 | 80 | — | 90 |

Асобны нумар каштуе **15 к.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** усімі агэнцтвамі сувязі і лістаносцамі, кнігарнямі ДВБ, аддзелам падпіскі кнігацэнтру ОГІЗ'у РСФСР, усімі яго філіаламі і ўпаўнаважанымі.

Тэлефон рэдакцыі 17-09

ЗЬМЕСТ:


АСВОЙВАЕМ НОВУЮ ВЫТВОРЧАСЬЦЬ

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

№ 24 СЬНЕЖАНЬ 1931

АДРАС РЭДАКЦЫІ: МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 59
ТЭЛЕФОН 17—09



АСВОЙВАЕМ НОВУЮ ВЫТВОРЧАСЬЦЬ


Ягор'еўская ф-ка наладзіла вытворчасьць аўто-тармазной ленты „Фэрадо“.


якая да гэтага часу увозілася з-за мяжы

# II[я] сэсія ЦВК БССР 10[га] скліканьня



Калідор клюбу харчавікоў, па Камсамольскай вул., увешан лёзунгамі, плякатамі, дыяграмамі, якія моваю лічбаў гавораць аб нашым росьце, аб вялікім размаху социялістычнага будаўніцтва. Далей па калідору расстаўлены макеты, засьняты асобныя моманты апрацоўкі матэрыялаў, разьвешаны фото ўдарнікаў 3-га году пяцігодкі. Каля таго ці іншага макету дэлегаты сэсіі заводзяць гарачыя спрэчкі.

Але зьвініць званок і начынаецца сур'ёзная дзелавая работа.

Сэсію адчыняе старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР тав. Чарвякоў.

— Таварышы, II Сэсія ЦВК БССР пачынае сваю работу ў апошнія дні 3-га рашаючага году пяцігодкі, калі рабочая кляса, колгасьнікі, усе працоўныя Савецкай Беларусі разам з працоўнымі Савецкага Саюзу пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і яе Ленінскага ЦК вядуць барацьбу за пасьпяховае сканчэньне плянаў 3-га рашаючага году пяцігодкі, за завяршэньне пабудовы фундаманту социялістычнае эканомікі. Ленінскае пытаньне „хто каго" вырашана на карысьць социялізму.

Тав. Чарвякоў зварочвае ўвагу дэлегатаў на неабходнасьць організацыйна-гаспадарчага замацаваньня колгасаў, як цэнтральнай задачы і падставы далейшага разгортваньня колгаснага руху і ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі.

— Усе гэтыя посьпехі краіна саветаў мае дзякуючы пасьпяховаму ажыцьцяўленьню 6-ці ўвазаньняў тав. Сталіна,— працягвае Чарвякоў.

— І гэтыя посьпехі трэба замацаваць як найхутчэй,—пачуўся голас з залі.

— І з гэтай задачай справімся з гонарам,—адказвае дакладчык.

— У той час, калі Савецкая Беларусь разам і пры дапамозе Савецкага Саюзу вядзе пераможную барацьбу за социялізм, у гэты самы час капіталістычны сьвет знаходзіцца ў паласе надзвычайна глыбокага экономічнага і політычнага крызісу.

Вядучы мірную работу і мірнае будаўніцтва і ня спыняючы барацьбы за захаваньне міру, мы павінны не забываць ні на хвіліну аб неабходнасьці павялічэньня абароназдольнасьці нашай краіны, аб узмацненьні бояздольнасьці нашай Чырвонай арміі.

— Паставіўшы перад сабой гэтыя вялізарныя задачы, дазвольце абвясьціць II сэсію Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР адкрытай.

Зал напаўняецца бурнымі воплескамі і сьпевам Інтэрнацыяналу.

Дакладчыкі па парадку, згодна абвесткі дню, выказвалі свае меркаваньні, указвалі на вялікія творчыя здольнасьці працоўных мас.



У перапынку плённай працы сэсія выслухоўвала рапарты, тэлеграмы з фронту будаўніцтва сацыялізму.

Тав. Галадзед даводзіць дэлегатам аб кантрольных лічбах народнай гаспадаркі БССР на 4-ы заключны год пяцігодкі.

Кожнага паасобку дэлегата непакоіць яго галіна вытворчасьці, у якой ён працуе, за якія якасныя і колькасныя паказчыкі мы павінны будзем змагацца, каб ажыцьцявіць лёзунг партыі „дагнаць і перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны" і пабудаваць сацыялізм.

Каб ажыцьцявіць гэту першачарговую задачу,—гаворыць т. Галадзед,—нам неабходна ўзьняць на яшчэ вышэйшую ступень актыўнасьць працоўных мас краіны на выкананьне пляну па прамысловасьці, які вызначан з прыростам валавой прадукцыі на 68,6 проц. і павінны выпрацаваць прадукцыі на 1.422.500 тыс. рублёў.

Па кожнай галіне прамысловасьці нам трэба змагацца за ажыцьцяўленьне пляну: па лініі ВСНГ БССР за прырост прадукцыі на 59,8 проц. з выпрацоўкай на 634.636 тыс. руб., па НКСнабу прырост на 64,6 проц. з выпрацоўкай на 295.500 тыс. р., па мясцовай прамысловасьці—71.650 тыс. руб., самагужчай—244,4 млн. руб.

— Вось гэта сапраўды разгорнутая бальшавіцкая праграма,—пачуўся голас з залі.

— Так, гэта правільна,—пацьвярджае тав. Галадзед. — Але каб выканаць гэтыя колькасныя паказчыкі, трэба дадаць яшчэ працоўную сілу, якасьць і ўкласьці капітал, уменьне з яшчэ большай напружанасьцю арганізаваць працу па сацыялістычным шляху. Таму павялічэньне рабочых мы праектуем на 63 тыс. чалавек, зьнізіць сабекошт па прамысловасьці ВСНГ на 8,1 проц. з павышэньнем прадукцыйнасьці працы па 26,9 проц. і па НКСнабу—на 7 проц. і 26 проц. з капіталаўкладаньнем у 524,4 млн. руб.

— Пры ажыцьцяўленьні запраектаваных кантрольных лічбаў па прамысловасьці на 1932 год мы зможам да канца году перавыканаць увесь аб'ём пяцігодкі па прамысловасьці ВСНГ—на 12,2 проц.

— Пасьпяховае правядзеньне намечаных плянаў кантрольных лічбаў павінна ісьці поруч з пашырэньнем сеткі транспарту, апалу і кіруючага складу ўсімі галінамі вытворчасьці—гэта цэнтральнае вырашэньне праблемы кадраў, якія плянам прадугледжаны ў вялікім размаху з павялічэньнем амаль у 2 разы.

Пачаліся спрэчкі, абгаварэньне кантрольных лічбаў, і кожны з выступаючых уносіў усё новыя і новыя дадаткі, якія пастановай сэсіі прыняты да папраўкі ў канчатковым зацьверджаньні народна-гаспадарчага пляну.

Ня менш цікавіў дэлегатаў плян разьвіцьця сельскай гаспадаркі і з нецярплівасьцю чакалі дакладу старшыні Калгасцэнтру тав. Міцькова.

— У сельскую гаспадарку БССР укладаньні выраслі на 59,3 проц., а ў абсалютнай лічбе ў 1931 годзе на 151 млн. рублёў супроць 90 млн рублёў, якія былі затрачаны ў 1930 годзе,—гаворыць тав. Міцькоў.

— Таму мы павінны змагацца за лічбы, вызначаныя плянам, якія накіроўваюць нашу думку на давядзеньне агульнага размеру ўсёй пасеўнай плошчы да 4.150 тыс. *га*, што дасьць прырост у параўнаньні з 1931 годам на 16,5 проц., у тым ліку па саўгасах прырост вызначаецца на 129,3 проц. Запраэктавана давесьці колькасьць трактарных станцый па БССР да 97 з гым, каб трактарны парк павялічыць да канца 1932 г. да 107 тыс. конскіх сіл.

Поруч з павышэньнем пасеўнай плошчы патрэбна дабіцца арганізацыйна-гаспадарчага замацаваньня калгасаў, ліквідаваць ураўніlaўку і абязьлічку ў працы калгасаў.

Разам з гэтымі канкрэтнымі мерапрыемствамі неабходна паставіць сабе задачу вырашэньня мясной проблемы ў 1932 г. Стада сьвіней мы павінны давесьці да 3.800 тыс. штук, а буйнай рагатай жывёлы да 2.208 тыс. штук.

Выходзячы з канкрэтных задач па ажыцьцяўленьні пяцігодкі ў чатыры гады неабходна павышаць культурна-палітычны ўзровень працоўных мас, бо „ў краіне няпісьменных сацыялізму не пабудуеш", таму нашым плянам прадугледжана закончыць ліквідацыю няпісьменнасьці да канца 1932 году.

— Галоўную задачу—увядзеньне ўсеагульнага абавязковага навучаньня на базе 4-годкі—мы ў асноўным вырашылі ў 1931 годзе. У 1932 годзе мы павінны дабіцца далейшага паглыбленага вырашэньня гэтай задачы і напэўна павінны ужо будзем паставіць задачу правядзеньня ўсеагульнага абавязкова навучаньня на базе 7-мігодкі.

На ажыцьцяўленьне пастаўленых задач намі складзен фінансавы плян народнай гаспадаркі і культуры на 1932 год у размеры 788,1 млн. руб.; па дзяржбюджэту—у 300 млн. руб., а мясцовы—ў 204 млн. руб.

З гэтых фактаў і лічбаў яскрава відаць, што на аснове гіганцкіх посьпехаў, дасягнутых у трэцім рашаючым годзе пяцігодкі, мы маем поўную магчымасьць ажыцьцявіць на справе галоўны лёзунг партыі—выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.

Яго выкананьне магчыма толькі пры аднэй умове,—калі ўсе гаспадарчыя, партыйныя і савецкія работнікі па-сапраўднаму ўсьвядомяць сутнасьць і на справе ажыцьцёвяць шэсьць умоў тав. Сталіна.

Далейшая рашучая барацьба за марксыцка-ленінскую тэорыю, за генэральную лінію партыі, барацьба на два франты—супроць правых і „левых" апартуністаў і прымірэнцаў да іх—забясьпечыць пасьпяховае ажыцьцяўленьне народна-гаспадарчага пляну чацьвертага, заключнага году пяцігодкі.

**Р. Кутылоўскі.**

## РАСЬЦЕ ІНДУСТРЫЯ БССР



**Пабудова газагенэратарнага корпуса шклозаводу ў Касьцюкоўцы (Гомельшчына).**
**Унізу. Рабочы пасёлак пры шклозаводзе.**



Фото Мазэлева

**Мік. Аляхновіч**

# ТВОРЧЫ ШЛЯХ А. АЛЕКСАНДРОВІЧА

ДА ДЗЕСЯЦІГАДОВАГА ЮБІЛЕЮ

Пролетарская грамадзкасьць, Беларуская Асоцыяцыя пролетарскіх пісьменьнікаў у сьнежні сьвяткавалі 10-гадовы юбілей творчай работы аднаго з буйнейшых пролетарскіх поэтаў БССР—Андрэя *Александровіча.* 10 год прайшло з таго часу, калі на старонках газ. „Савецкая Беларусь" зьявіўся першы твор поэты, верш „Да моладзі".

Поэта выдаў ужо звыш 10 зборнікаў сваіх твораў (шмат якія з іх выйшлі II выданьнем), яго творы, перакладзены на цэлы рад іншых моў.

Новая кніжка поэты „Вершы і поэмы", якая выйшла ня так даўно, падагульвае пройдзены ім шлях. Лепшыя творы, якія напісаў ён за час сваёй творчай дзейнасьці, сабраны тут. Пераглядаючы старонкі гэтай кніжкі, адразу кідаецца ў вочы політычная накіраванасьць, ваяўнічасьць, баявы характар асноўнай масы твораў. Шырачэзнае кола тэм мы маем у поэты: жыцьцё рабочых да рэвалюцыі, Кастрычнік, барацьба за яго, пакуты Заходняй Беларусі, змаганьне са шкоднікамі і нацдэмамі, культурнае будаўніцтва, новы быт. Чырвоная армія, камсамол, соцыялістычнае будаўніцтва, малюнкі заводзкай працы і інш., і на фоне гэтых тэм асноўнае і галоўнае—рост і станаўленьне новага чалавека.

Значнае месца ў творчасьці Александровіча займаюць мотывы Заходняй Беларусі. Поэта ўпэўнены ў канчатковай перамозе працоўных Заходняй Беларусі, ён верыць, што хоць шмат загіне адданых таварышоў, але ўсё-ж такі перамога будзе на баку працоўных.

Польшча сёньня, як царская Расія,
Краіна сьмерці... Краіна цёмных крат!

голасна кажа поэта. Але ў яго ня толькі сум, ня толькі боль за пакуты братоў. Глыбокім гневам і абурэньнем гучаць гэтыя вершы. Яны арганізуюць да барацьбы, да змаганьня, да дапамогі нашым братом.

Буйным творам, у якім Андрэй Александровіч дае разгорнуты малюнак ворожай дзейнасьці нацыянал-дэмакратаў, пукаты паказвае клясавых ворагаў, зьяўляецца поэма „Цені на сонцы". Тут ён паказвае цёмныя цені на сьветлым сонцы нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Перад чытачом праходзіць цэлая галерэя тыпаў, узятых з нядаўнай рачаіснасьці. Для аўтара героі яго поемы ня проста паасобныя пэрсанажы, паасобныя клясавыя ворагі—наадварот, аўтар паказвае іх адзіны фронт у змаганьні з дыктатурай пралетарыяту. Ён паказвае, як для іх у гэтай барацьбе усе сродкі аказваюцца прымянімымі.

Для нас важна політычная актуальнасьць гэтай паэмы, насычанасьць яе пачуцьцём клясавай ненавісьці да тых, хто перашкаджае нам будаваць новы сацыялістычны лад. Александровіч тут выступае як барацьбіт, як змагар з канкрэтнымі носьбітамі зла. Ён ускрывае іх клясавую сутнасьць.

Гэта поэма зьяўляецца ня толькі мастацкі ўпэўніваючым паказам шкоднікаў. Яна адначасна зьяўляецца сыгналам пра небясьпеку. Гэтай поэмай Александровіч завастрае пільнасьць рабочай клясы, яе авангарду камуністычнай партыі на неабходнасьць барацьбы з гэтым злом.

Гэта пякучая сатыра жорстка бічавала носьбітаў клясававорожай ідэалёгіі—нацыянал-дэмакратаў, концэнтравала на іх галоўную ўвагу чытача.

Ня толькі ў „Ценях на сонцы", але і ў цэлым радзе іншых твораў поэта сьмела зрывае маскі з нацдэмаў, мастацкі ўпэўніваючы паказвае іх твар.

Барацьба з клясавым ворагам—адна з асноўных тэм, якая прасякае творчасьць Александровіча. Поэта паказвае яго ў розных выглядах пад рознымі маскамі і лёзунгамі, але за гэтымі маскамі, за рэвалюцыйнымі фразамі Александровіч бачыць яго і сьмела б'е сваім бальшавіцкім словам.

У сваёй „Поэме імя Вызваленьня" аўтар спрабуе адлюстраваць шлях барацьбы за Кастрычнік, за Беларусь савецкую, і адбіць тыя посьпехі і дасягненьні, з якімі БССР уваходзіць у новае 10-годзьдзе свайго існаваньня. Ён разгортвае паасобныя малюнкі змаганьня, паказвае тыя дасягненьні, якіх дасягнулі працоўныя БССР у выніку сваёй дзесяцігадовай упартай працы і змаганьня. Бабруйскі камбінат, Гомсельмаш, Сталінстан, ф-ка штучнага шоўку ды інш. вялізарныя дасягненьні на фронце культурнага будаўніцтва адлюстроўвае аўтар. Адначасна поэта паказвае, што шлях нашага будаўніцтва і перамог ня ёсьць гладкі і роўны шлях. Аўтар паказвае моманты перашкод, якія прышлося асіліць працоўным, каб мець магчымасьць прыйсьці да сваіх дасягненьняў.



**Ахрэмчык Я. Я.** **Портрэт поэта А. Александровіча.**

Праўда, гэта поэма не пазбаўлена значных недахопаў, якія ідуць па лініі схэматызму. Замест паказу рэальных жывых клясавых людзей, якія змагаліся за Кастрычнік, замест паказу працэсаў гэтай барацьбы—тут мы маем толькі схэмы, агульныя накіды. Аўтар не падае ўсёй супярэчлівай дыялектыкі жыцьця, а толькі абегла застанаўліваецца на паасобных фактах, схэматызуе іх. Замест глыбокага паказу жыцьця, тут мы ў значнай ступені маем сьлізганьне па паверхні.

Сёлетні год прынёс новы буйны твор—вершаваны роман „Нараджэньне чалавека". Тэма гэтага роману—нараджэньне новага чалавека, нараджэньне ня ў фізычным сэнсе гэтага слова, а ў політычна-сацыяльным. Асноўным зьместам роману зьяўляецца паказ жыцьцёвага шляху Марылі Надзьвілінай.

Марыля выпадкова трапляе ў асяродзьдзе шпіёнаў і дзякуючы сваёй несьвядомасьці выконвае іх заданьне. Але яе непрыналежнасьць да шпіянажу хутка высьвятляецца і ЧК яе выпушчае. Перад ёй паўстае пытаньне аб далейшым жыцьці, аб яго шляхах.

Куды мне ісьці і якімі шляхамі,
Каб думкі згубіць аб мінулым?

разважае Марыля ў гутарцы з камсамольцам Паўлам. Яна адчувае, што яе ранейшы шлях быў шляхам вельмі хісцкім, што ідучы па гэтым шляху яна амаль-што трапіла ў шэрагі ворагаў рэвалюцыі. Работа ў пераплётнай, удзел у грамадзкім жыцьці, у політычным гуртку шырэй расчыняе вочы дзяўчыне. Яна больш акрэсьлена пачынае разьбірацца ў праявах жыцьця, пачынае бачыць сваіх ворагаў і прыяцеляў.

Марыля з галавой акунаецца ў грамадзкую працу, у гарачую адданую работу. Яна ўпэўнена крочыць да далейшых перамог над сваім мінулым. Мы бачым, як у працэсе адданай працы выроствае новы чалавек, і адначасна мы бачым з якімі цяжкасьцямі ідзе гэты рост. Аўтар паказвае, як Марыля ў працэсе свайго жыцьця і працы перараджаецца, як яна набліжаецца да сучаснага будаўніцтва, сама непасрэдна і актыўна

працуючы на адным з яго вучасткаў. Мы бачым як пад уплывам рабочага калектыву сьціраюцца індывідуалістычныя імкненьні, як Марыля навучаецца падпарадкаваць сваё асабовае грамадзкаму. У канцы роману аўтар паказвае, як Марыля разам з іншымі членамі шэфкамісіі едзе на вёску, каб дапамагчы сялянам у іх барацьбе за новую колектыўную гаспадарку.

Яна заваявала свой шлях, той шлях, па якім ідуць мільёны працоўных у сваёй барацьбе за лепшую соцыялістычную будучыню.

У гэтым романе Александровіч дае новыя адносіны да шэрагу фактаў першачарговай вартасьці, ён бярэ ня ўсе індывідуальныя перажываньні герояў, не перажываньні наогул, а пэўныя соцыяльныя бакі чалавечай псыхолёгіі.

Асноўны конфлікт, які тут цікавіць аўтара, гэта конфлікт глыбокага соцыяльнага парадку, конфлікт, які адлюстроўвае фармаваньне новых элемэнтаў сучаснай нам рэчаіснасьці. Ён паказвае, як паасобныя перажываньні падпарадкоўваюцца гэтаму інтарэсу да зьяў шырокага грамадзкага парадку. Асабовае жыцьцё дзеючых асоб, нават і самой Марылі, зьяўляецца толькі фонам, па якім разгортваецца праблема росту новага чалавека.

Апошні буйны твор Александровіча—п'еса „Напор", якая друкуецца ў нумары 11 і 12 „Маладняка" за гэты год. Гэта п'еса характарызуе новы этап у разьвіцьці нашай пролетарскай поэзіі, характарызуе новы этап у творчасьці Андрэя Александровіча. Гэты твор—характарны прыклад творчай перабудовы нашай пролетарскай поэзіі адпаведна задачам рэконструкцыйнага пэрыяду. П'еса зьяўляецца характарным прыкладам аўладаньня тэматыкай рэконструкцыйнага пэрыяду, а трэба сказаць, што бяз гэтага аўладаньня немагчыма ніякае мастацкае абагульненьне рачаіснасьці, аўладаньне творчым мэтодам пролетарскай літаратуры.

У гэтым творы аўтар паказаў адданую барацьбу камсамольскага колектыву на адным з дрэваапрацоўчых заводаў за выкананьне прамфінпляну, за тэмпы. Александровіч паказвае заводскую рэчаіснасьць так, як яна ёсьць, гэта значыць ён паказвае яе ў зьменах, у процэсе, у падрыхтоўцы яе заўтрашняга дню. Гэтым творам поэта ў асноўным перамагае вузасьць і схэматызм, які мае месца ў ранейшых творах.

Новая п'еса не ўкладаецца ў рамкі старых школьных жанраў. Тут мы маем і скрыжаваньне розных драматургічных жанраў, і, нам здаецца, што гэта зьява, бязумоўна, зьяўляецца прагрэсыўнай, яна адзначае станаўленьне новага жанру. Старыя жанры атрымліваюць тут новыя якасьці, значныя зьмены.

Да недахопаў твору трэба аднесьці слабы паказ партыйнага кіраўніцтва, недыфэрэнцыраванасьць сэзоньнікаў (яны ўсе паказаны як адна маса), некаторую непадрыхтаванасьць дзей.

Творчы шлях Александровіча непарыўна зьвязаны з процэсам росту і разьвіцьця маладой беларускай пролетарскай літаратуры. Сваяасаблівасьць беларускага пролетарыяту, які з пролетарыяту дробных заводаў і майстэрняў перарабляецца ў заводзкі пролетарыят,—адбілася ў творчасьці Александровіча.

Поэта ўвайшоў у нашу літаратуру як акрэсьлены поэта гораду, аднак, на першым кругабезе творчасьці ён яшчэ ня вольны ад дробна-буржуазных уплываў. Гэта праяўляецца ў шэрагу вершаў, дзе ён аддае некаторую даніну нацыянал-дэмакратычнай ідэолёгіі.

У далейшай творчасьці ён выправіў свае памылкі. Такія творы, як „Цені на сонцы", „Нараджэньне чалавека", „Напор" ды шэраг вершаў—зьяўляюцца лепшым доказам перамогі поэты над сваімі памылкамі. У процэсе разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва Александровіч, перамагаючы свае ранейшыя памылкі, адным з першых перабудоўваецца.

Калі раней у яго яшчэ мела месца упрашчэнства, схэматызм, сьлізганьне па паверхні зьяў, няглыбокае інагды ўсьведамленьне процэсаў жыцьця (напр. ў „Поэме імя Вызваленьня"), дык зараз аўтар становіцца на шлях перамаганьня гэтага і дасягае на гэтым шляху значных посьпехаў. Ён ужо падыходзіць да аўладаньня дыялектыка-матэрыялістычным мэтодам.

Быць заўжды на ўзроўні задач эпохі, аўладаць дыялектыка-матэрыялістычным мэтодам, яшчэ з большай адданасьцю слугаваць сваёй мастацкай творчасьцю пралетарыяту—вось чаго мы патрабуем ад Александровіча.

Александровіч выгадаваны ў камсамоле. У шэрагах „Маладняка" ён аформіўся як пісьменьнік. БелАПП, якая працуе пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, дапамагла яму ў яго станаўленьні на новыя рэйкі, у яго барацьбе з мінулымі памылкамі і недахопамі.

Яго 10-гадовы юбілей—гэта яскравы доказ правільнасьці кіраўніцтва комуністычнай партыі нашым літаратурным рухам.

Поступу слаўнае перабудовы
Служыць маё
бальшавіцкае слова,—

кажа поэта.

Будзем спадзявацца, што мастацкае слова поэты-комуніста, поэты-бальшавіка яшчэ доўга будзе служыць працоўным, выкрываючы ўсю гніль і чэмер старога, паказваючы тое новае, што нясе перамогшая кляса—пролетарыят.

# ТАВАРЫСКІ

**Мікола Хведаровіч**

## А. АЛЕКСАНДРОВІЧУ

Нам яшчэ
так многа ваяваць,
Нам яшчэ
так многа бараніць,
Можа ў бойцы
зьляжа
галава,
Можа ў творчым
нам спалаць
агні.

Ў комсамоле
дні і хлопцы там,
Даражэй
за кожны лепшы верш,
Ў комсамоле я радзіўся сам,
Комсамол—
то першая вясна,
Комсамол
вучыў пісаць—
павер.
Ў будаўніцтве
бралі мы закал,
І ад пораху
хаваем спрытна нос.
Мы варожых куль
ня зналі
тумака;
Папяровы—
кволенькі закал,
І ад вершаў—
папяровы
кволы форс.

І ня час
пытаньні ставіць нам,
Падсумоўваць
перажыткаў пералік,
Яшчэ ў бутцах
доўгі час
смылець нагам,
Яшчэ доўга
рэгістрыраваць
наган,
Не падведзены
ў нас з ворагам
рэзьлік.
Ён так блізак
гэты грозны дзень,
Раўнавагі
рушыцца нячаць.
Памятай,
сусьвету перадзел,
Не радкамі,
а штыхом ідзець;
Гэта будзе
збройнай
славы час.
Можа заўтра
выйсьці ў паход,
І штыхом
заткнуць
варожы рот;
Можа заўтра
штурмаваць
завод;

Можа заўтра
выйсьці
ў паход
Каб краіне
забясьпечыць рост.
Гэта-ж міг
дзесятак лет і зім,
Толькі небыт
сьцені скалатнуць.
Дынамітам
вершы
зарадзі;
Покуль ноч
трымае маладзік,
Стой армейцам
на сваім
пасту.

Нам яшчэ
так многа ваяваць,
Нам яшчэ
так многа бараніць.
Можа ў бойцы
зьляжа
галава,
Можа ў творчым
нам спалаць агні.

14-XII—31 год
Менск.

Я. Ліманоўскі

НАРЫС

# ПЫЛ НАД БАЛОТАМІ

Цягнік спыніўся. Станцыі тут няма, а невялічкая будка для пасажыраў загружана нейкімі ладункамі. У шэрані сьцюдзёных досьвіткаў выступаюць няясныя абрысы дамоў на горцы. Бліжэй выступае цёмна-зялёны са сваімі закуткамі, новы будынак Ветрынскай сямігодкі.

Зусім разьвіднела. Колы лінейкі хлюпаюць па гразкай глінiстай дарозе. Невялічкія,—быццам насыпаныя курганы,—горкі,—бліскучыя гладзь вазёр,—каля іх хутаркі, сасоньнікі. Паміж азёр урээваюцца плошчы азімага жыта колгасаў. Яны нібы хочуць сапхнуць хутаркі са стромкага берагу ў возера.

Густы алешнік абсыпаў лісьце. На вышэйшай алешыне грузна сядзіць, азіраючыся навокал, глухар. За алешнікам пачынаецца комунаўскае поле. Жыта, пасеянае радавой сеялкай, разраслося, густа сплялося сваімі нёркамі, нібы мяккі, зялёны дыван.

На няшырокай, крыху ўзьнятай палосцы, паміж возерам і балотамі расьцягнулася вёска Багушова—цэнтр Комуны. Пасьля нястромкага спаду, роўнай тэрасай спушчаецца паласа да балота—з аднаго, і да возера—з другога боку. На пад'езьдзе да Багушова невялічкі новы домік—праўленьне комуны,—за ім будуецца новая школа, далей, каля самай вёскі, пабудаваны новыя ясьлі;—будынак у форме літары Т. Пабудаваны кароўнік, ён як-раз на спадзе тэрасы, таму для яго глыбока выкапана пляцоўка. Каб папасьць у кароўнік, з абоіх канцоў гліняны спуск высланы роўнымі плашкамі. Страха павінна быць пакрыта бляхай. Але няма бляхі і кулявой саломы, таму комунары часова пакрылі кароўнік тоўстым пластом звычайнай трушанай саломы. „Закапацца ў зямлю"—гэта своеасаблівая ідэя тэхніка Гнядова. Ён склаў „цікавы" плян будаўніцтва ў комуне. Уся гарбінка ўзгорку вёскі Багушова, на тэрыторыі 32 *га*, павінна была быць зьнята. Гэта работа каштавала-б ня шмат... усяго толькі 480.000 рублёў. Тэхніка Гнядова пасадзілі, убачыўшы шкодніцтва. Прыяжджалі, аднак, прадстаўнікі, спэцыялісты па будоўлі, з Менску і Полацку. Яны зрабілі сваё заключэньне: „Так, як прадбачана плянам, было-б добра, але дорага". Ёсьць яшчэ такія галавацяпы ў Менску і Полацку, якія лічаць, што затрата паўмільёна рублёў—толькі на выраўнаньне плошчы пад будаўніцтва, толькі ў аднэй комуне, не зьяўляецца шкодніцтвам. Плян, зразумела, быў адкінуты, а тэхнік Гнядоў у далейшым займаецца складаньнем „грандыёзных" плянаў.

Сакратар ячэйкі, дэмобілізаваны чырвонаармеец тав. Конанаў расказвае, як стварылася комуна. 12 чырвонаармейцаў, 1-га жніўня 1929 году, у лягеры прынялі пастанову аб організацыі комуны. Дэмобілізаваўшыся з арміі, безадкладна ўзяліся за працу.

— На востраве, дзе быў хутар кулака Гаеўскага,—кажа Конанаў,—мы пачалі будаваць хаты. Кругом балоты. Есьці варылі на дварэ. Спалі на сене, у пуні. Надышла весень. Прыціскае сьцюжа. Спаць холадна. Устанеш, ідзеш памыцца, дождж, вецер. Націскае ўжо зіма, а хаты яшчэ не гатовыя. Паднатужыліся, скончылі адну—дзьве. У восень 1929 году пачалі далучацца да нас вёскі. У лістападзе далучылася Багушова, Антонавічы, у сьнежні—Крукі. Пазьней перадалі нам фальваркі Вольшчына, Балотніцы. Дадалі зямлі з былога маёнтку Арэхаўка, графа Забелы.

З ліку 12 чалавек, заснавальнікаў комуны, зараз засталося ня больш паловы. Былі тут з Магілеўшчыны, Смаленшчыны,



РСФСР, павыяжджалі дамоў. Зараз пакрысе прыбываюць новыя дэмобілізавацыя чырвонаармейцы. Былыя аднаасобнікі асвоіліся з жыцьцём у комуне.

Зараз у комуне 109 сем'яў. Мужчын працаздольных—129 чалавек, жанчын—131. Едакоў усяго 418. Комуна мае вялізную зямельную плошчу. Пахаці—690 *га*, сенажацяй—280 *га*, няўдоб'яў—2333 *га*. Пад сядзібамі і садамі—44 *га*, лесу—36 *га*, выганаў—27 *га*. Уся плошча комуны складае 3340 *га*. Балота асушана ўжо 1300 *га*.

Мы з тав. Самуйлёнкам (працаўнік газ. „Чырвоная Полаччына") ідзем пазнаёміцца з балотамі. Пачалі абыход ад галоўнай магістралі, што з балот праведзена да возера. Шырокая канава,—у некаторых мясцох сьцяўся лядок на вадзе. На канаве ў іншым месцы расьце куст вадзяное травы ды з-пад берагу плюсьне налім, пакідаючы за сабою хвост узварушанай муці. Да магістралі, на роўнай адлегласьці адна ад другой, ідуць асноўныя бакавыя канавы. Паміж імі, больш вузкімі канавамі, „стрэлкамі" балота парэзана на роўныя, прадаўгаватыя клеткі. Чорныя істужкі канаў, з насыпамі торфу каля іх, ды шаршавымі вазамі сьцяганых сюды хмызьнякоў і карчоў, добра відаць з Багушова. Але толькі прышоўшы сюды, адчуваеш сапраўды ўсю веліч тых зьмен, што ператварылі выгляд балота. За магістральнай канавай—малады шаршавы бярэзьнік.

Сонца зірне на некалькі хвілін з-за хмарак і зноў схаваецца. Дзьме сухі сьцюдзёны вецер. Шуршыць пад нагамі ад ветру сухая, рэдкая, высокая трава. Чапляецца яна сваімі рознастайнымі кручкамі за полы.

Вада запала глыбока. Ад верхняга ўскрайку канавы да вады больш мэтра. Толькі ў магістралі яна падымаецца вышэй.

Шуршыць сухая трава ды гойсае вольна вецер. На балоце няма аніякае жывое твары: зьнікла яна, схавалася, адступіла туды, дзе нетры балот не кранула рыдлёўка. І ня вернецца ўжо яна на гэтыя нізіны

Балота не маленькае. Мы ідзем усё далей. Упоперак магістраль перасякае нізіна, бы плойма заплыўшай ракі. Гэта азярышча—цэнтр балота. Тут магістраль з абоіх бакоў высажана прысадамі (па два рады з кожнага) тоўстых і высокіх калоў. Ад калоў над магістральлю, нібы маставое рыштаваньне, палажаны папярэчыны. Паміж каламі накладзена гальлё. Гальлё удратоўваецца пад нагамі да самае вады, але прайсьці яшчэ можна. Калы і гальлё паміж імі адгараджваюць магістраль, каб яна не заплыла бузой з вазярышча. Спрабуем вымярыць глыбіню. Трохмэтравы дручок не дастае дна ў магістралі. Ён



таксама хаваецца ўвесь не дастаўшы дна і ў траскім вазярышчы. Вады на вазярышы няма,—расьце рэдкая, кучаравая жорсткая трава. Прайсьці тут і цяпер яшчэ нельга.

За вазярышчам ужо няма бакавых канаў і стрэлак, толькі магістраль далёка ўразаецца ў прасторы балот і хаваецца ў хмызьняках. Асушана толькі тут балота проці Багушова. З аднаго боку, асушаная частка аддзяляецца магістральлю каля бярэзьніку—з другога, з сярэдзіны балота—плоймай вазярышча. За вазярышчам раней была дрыгва, якая глыбока ўгіналася пад нагамі: пастаяць тут даўжэй на месцы, дык можна, на ўгіне дрыгвы, спусьціцца ў балота з галавой. Зараз, хоць няма падсобных канаў, але хадзіць тут можна. Дзе-ні дзе толькі пад нагамі прасочваецца вада.

На асушанай частцы балота, у куце каля магістралі і вазярышча, пасеяны авёс. Усяго пасеяна 60 *га*. Раўнюткія кавалкі паміж стрэлкамі (у кожным кавалку адзін *га*),—скошаны касілкай. Дробныя камкі непрагніўшага яшчэ торфу. Авёс, тут-жа, на балоце звозяць у стогі. Сёньня прыехалі дапамагчы комуне 60 чырвонаармейцаў. Частка іх возіць і складае ў стагі авёс, другая—косіць авёс з вікай, на балоце, пад Багушовым. Некалькі чалавек звозяць бульбу. Авёс не дасьпеў, аднак

# У 1931 г. СССР ЗАВЯРШЫУ ПАБУДОВУ ФУНДАМАНТУ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ЭКАНОМІКІ





**Масква. Новы гігант варштатабудаўніцтва**

**Зьлева**
**Агульны выгляд варштатабуда**

**Справа**
**Праверка работы ўнівэрсальнага фрэзэрнага варштата**

...годзе ўступілі ў строй новыя сусьветныя гіганты інду... -СТЗ, харкаўскі трактарны аўтазавод імя Сталіна, Магні...кі коксахэмічны комбінат, Маскоўскі гігант варштатабудаўніцтва і інш.

У 1931 г. народны даход БССР узрос на 13—14 проц., удзельная вага соцыялістычнага сэктару ў народным даходзе павялічылася на 15—20 проц. і дасягнула 75—80 проц. Валавая продукцыя прамысловасьці ВСНГ і Наркомснабу БССР вырасла на 69 проц. Капітальныя ўкладаньні ў прамысловасьць вырасьлі на 31,4 проц. і дасягнулі 87 млн. руб., у сельскай гаспадарцы на 59,3 проц., што раўняецца 151 млн. руб. Фонд зарплаты павялічыўся на 53 проц. Агульная сярэдняя зарплата вырасла на 22,3 проц. У колгасах аб'ядналася палова ўсіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР. Значна павысілася таварнасьць сельскай гаспадаркі. Пасеўная плошча пашырана на 5,5 проц.

## Ніжні-Ноўгарад. Начальніку Аўтабуду і дырэктару аўтазаводу імя тав. Молатава тав. Дыбец

Прывітаньне рабочым і работніцам, адміністрацыйна-палітычным і тэхнічным кіраўніком заводу з поваду сканчэньня і пуску аўтагіганта!

Гарачыя прывітаньні ўдарнікам і ўдарніцам Аўтабуду, якія вынесьлі на сваіх плячох галоўны цяжар будаўнічых работ!

Падзяка замежным рабочым, тэхнікам і інжынэрам, якія аказалі дапамогу рабочай клясе Савецкага Саюзу ў справе пабудовы, мантажу і пуску заводу!

З перамогай, таварышы!

Будзем спадзявацца, што аўтазаводу ўдасца хутка і поўнасьцю перамагчы труднасьці асваеньня і разгортваньня вытворчага працэсу, труднасьці выкананьня вытворчай праграмы.

Будзем спадзявацца, што аўтазавод зможа ў хуткім часе даць краіне тысячы і дзесяткі тысяч машын, неабходных для нашай народнай гаспадаркі, як паветра, як вада.

Наперад, да новых перамог!

І. СТАЛІН.

**Бальшавіцкія колёны трактараў у 1931 г.**

| Сталінградзкі трактарны | „Чырвоны Пуцілавец" | Харкаўскі тр... (за тры м...) |
|---|---|---|
| 18.410 | 20.950 | 1.304 |

З першага студзеня 1932 г. уступілі ў строй—Саратаўск... комбайнаў, Ніжагародзкі аўтазавод, буйнейшы ў Эўропе ч... ўральскі медзяплавільны комбінат і інш.

**Зьлева**
**Новы трактарны конвэйер „Чырв. Пуцілаўца". Устаноўка клапанаў у рухавіку.**

**Справа**
**Мэханазборачны цэх Ніжагародзкага аўтазаводу.**



# 1932 ЗАВЯРШАЛЬНЫ ГОД ПЯЦІГОДКІ БУДЗЕ ГОДАМ БУРНАГА РОСТУ ВЫТВОРЧЫХ СІЛ

ТЭРМІНОВА ПАДРЫХТАВАЦЦА ДА ВЯСНОВАЙ СЯЎБЫ







# ПЫЛ НАД БАЛОТАМІ

(Працяг)

фурманку і ўцяклі. Ды мусіць яго так натузалі (ён быў хворы), што пачаў харкаць крывёю і памёр.

Ня было асаблівай карысьці і сялянам ад кавалка балота, што высудзілі ў пана. Але ўсёткі, хоць адзін бок поля быў абаронены ад пана Можна было тут ужо спакойна пасьвіць скаціну.

І толькі тады, калі прышла савецкая ўлада, калі зьмяталася чырвонай мятлой белапольская акупацыя, калі ўся Савецкая краіна закіпела, як мурашнік, творчай працай,—зьмяніўся малюнак балота, як зьмянілася і ўсё жыцьцё сялян Багушова. Што было не пад сілу графу Забела, з гэтым справіліся сяляне, арганізаваўшы комуну,—пры матэрыяльнай дапамозе Савецкай дзяржавы. Дзяржаўныя крэдыты глыбокімі чорнымі баразнамі—канавамі—прарылі балота. Далучыўшыся да невялікай групы дэмобілізаваных чырвонаармейцаў, сяляне ўзяліся за разгортваньне магутнай гаспадаркі.

Стада комуны налічвае 213 кароў,—цялят да двух год—105, цялят да году—67, быкоў вытворцаў—4. Шмат і драбнейшай жывёлы: сьвінаматак—70, подсьвінкаў—32, парасят—175, авечак—230. Коняй рабочых комуна мае 68, ды два жарабцы вытворцы і 11 жарабят.

Інвэнтарная база комуны таксама даволі моцная. Есьць малатарня складаная, адна паўскладаная малатарня, дзьве малатарні конных прывадных, два трыеры, адна торфадрабілка (не скарыстоўваецца), адна сіласарэзка, 3 касілкі, 4 жняяркі, адна мьнацёрка 12-вальцовая, 4 сеялкі, 10 спружыновак ды іншы сельска-гаспадарчы інвэнтар. Частку машын комуна перадала машынатрактарнай станцыі. Перададзены тры трактары, 5 сеялак, адна жняярка-снапавязка.

Комуна яшчэ не асвоіла ўсю сваю зямлю, асабліва не асвоіла большую частку асушанага балота.

Між іншым, на карчох і торфе мог-бы працаваць рухавік, можна было-б наладзіць на такім танным апале якую-небудзь вытворчасьць.

У 1930 годзе валавы даход комуны складаў 107.386 рублёў. Гэты даход, як і магутнасьць усёй гаспадаркі комуны, ёсьць усе падставы павялічыць,—асабліва па лініі жывёлагадоўлі і паляводзтва.

Комуна расьце і мацнее. Комуна зьяўляецца жывым довадам перавагі вышэйшай формы гаспадаркі—соцыялістычнай над усялякімі іншымі.

Кастрычніцкая рэволюцыя скасарыла графа Забела. Над непраходнымі балотамі закруціўся вірам пыл. Багушоўскія ды іншыя сяляне арганізавалі вышэйшую форму гаспадаркі—комуну.

Пад кіраўніцтвам компартыі мы змагаемся за найвышэйшую форму—за соцыялізм.

(Комуна імя №-скай дывізіі,
Ветрынскага сельсавету
Полацкага раёну)

КІНО-КАДРЫ З ФІЛЬМУ „ШЧАСЬЦЕ“









# ФІЛЬМ аб ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

# „ШЧАСЬЦЕ“

Ленінградзкая фабрыка Белдзяржкіно закончыла здымкі вялікага мастацкага фільму „Шчасьце“.

Аўтары фільму: беларускі журналіст-сцэнарыст *Мікола Таўбе* і малады рэжысэр—*Алесь Файнцымэр.*

Тэма фільму—рост клясавай сьвядомасьці працоўнага сялянства Заходняй Беларусі на глебе ўнутраных супярэчнасьцяй імпэрыялістычнай Польшчы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Па пыльным, вясковым шляху роўнай стужкай выцягнуўся атрад польскіх жаўнераў. Атрад стомлены—пэўна ня мала кілёмэтраў адкрочылі жаўнерскія боты, але глытаючы сонца і пыл ўздымае сьпеў гэты атрад:

Мы польскія, вясёлыя жаўнеры
Шчасьце ўсім мы нясем...

Сьпеў плыве над шляхам, над палямі і, калі апушчаецца на стомленую цяжкай працай вёску, у вёсцы пачынаецца спалох. Яшчэ рэха адгукнулася словамі „шчасьце ўсім мы нясем“, а ўжо зачыняюцца шыбы, гоняць у лес беднякі коняй і кароў. Мабыць, ня вельмі падабаецца ім „шчасьце“, што абяцае бадзёрая песьня атраду.

І калі прыбыў атрад у вёску, на звон царкоўнай званіцы сабраліся толькі асаднікі і багацей Тарас Платонавіч.

Польскаму афіцэру няма клопату, што не сабраліся мужыкі (звычайная рэч), ён загадвае чытаць дэкрэт аб тэрміновай здачы падатку. Дэкрэт прачыталі. Кулакі і асаднікі, у знак згоды, сьпелі—„яшчэ Польска ня згінэла“ і тут-жа, ня губляючы часу, атрад разышоўся па вёсцы ўзымаць падатак.

На поле прыходзіць афіцэр з часткай атраду, дзе на стомленым, худым кані арэ Панас бядняк-беларус.

— Не магу,—кажа Панас на патрабаваньне здаць падатак.

— Можаш!—цынічна іграючы наганам адказвае афіцэр.

Гэта выклікае абурэньне маладога Васіля—ён наадрэз адмаўляецца здаць падатак. Афіцэр загадвае яго арыштаваць.

Панас здае апошні хлеб у падатак.

Панас бачыць: надзей аніякіх няма... Ён ідзе ў кабалу да кулака. Днём і ноччу ён працуе на Тараса Платонавіча, каб выратаваць сваю сям'ю і каня ад галоднай сьмерці.

На кулацкім полі і гіне конь Панаса.

Пазбаўлены ўсялякай экономічнай глебы, уходзіць Панас на заработкі ў горад.

Працуючы ў парту на р. Вісьле, у нечалавечых умовах, ён уцягваецца ў барацьбу рабочых, трапляе ў турму... і пасьля некаторых хістаньняў ён далучаецца да той барацьбы, якую вядзе ў Польшчы компартыя. Так і Панас знайшоў сваё шчасьце.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Фільм здымаўся спэцыяльнай кіно-экспэдыцыяй фабрыкі Белдзяржкіно на Случчыне. У галоўных ролях: *М. Сімакіна, Л. Мазалеўская* (БДТ-2), *С. Паначэўны, Кастрыцкін, Мігурын, Чумачэнка, В. Кулакоў і Гіпсі.*

На нашых здымках: 1) здача падатку (арт. *М. Сімакіна* і *С. Паначэўны*), 2) „на зямлю Савецкую пайду шчасьце шукаць“—кажа Васіль (арт. БДТ—*Акімаў і С. Паначэўны*), 3) „...загінуў конь“..., 4) у турме.

Опэратар фільму—*С. Іваноў.*

Н. Ак.

Ул. Мяжэвіч

Нарыс

# ПРАЗ НЕТРЫ ПЕРАШКОД

I

Круцілі віхры сьнегавыя слупы, стагнала старэнькая хацінка лясьніка, што стаіць на ўскрайку бярозавага гаю.

Пятровіч выходзіў у сенцы, услухоўваўся ў нясупыннае выцьцё буры, гладзіў жаласьліва скуліўшага сабаку, вяртаўся ў хату і залязаў у далёкі куток на печы. Хацінка асьвятлялася газьнікам, полымя калыхалася ў бок ад ветру, які нямаведама адкуль браўся.

А ў гэты час па палёх без дарогі блукалі змучаныя людзі на стомленых конях, шукаючы прытулку ад холаду і цемры. Зусім нечакана на ўскрайку лесу, надзеяй ратунку бліснуў аганёк, людзі сарваліся з санак, затукалі па сьнягу, ажывіліся.

У гэту ноч ля хаты пры бярозавым гаі, якой было суджана ўвайсьці ў гісторыю барацьбы адважных, адбылася наступная гутарка:

— Адчынеце, пусьцеце пагрэцца...

— Хто вы такія і па што ў такое надвор'е і позьнюю ноч?

— Далёкія мы, заблудзіліся, замёрзьлі...

Дзьверы ўпарта не хацелі адчыняцца, ніжнім краем шчыльна прымёрзьлі да мокрых, прагніўшых дошак падлогі. Калі дзьверы расчыніліся, разам з марозным ветрам у хату ўвайшлі трое замёрзлых, асыпаных сьнегам людзей.

— Гаспадар, не ганеце нас, дазвольце пагрэцца і заначаваць...

— Гнаць вас няма куды, спаць няма дзе, а начаваць можна...—сказаў Пятровіч і нэрвова забегаў па хаце, прымаючы нечаканых і нязнаных гасьцей.

У гэту-ж ноч Пятровіч даведаўся, што прыехаўшыя, гэта і ёсьць тыя самыя людзі, пра якіх вось ужо роўна месяц гавораць усюды, ва ўсіх вёсках. Гавораць розна: са злосьцю і нянавісьцю, з любоўю і павагаю. Чуткі аб пабудаваньні саўгасу на былых землях княжны Іванскай усхвалявалі пасёлкі і хутары, раскінутыя па лясох і далёкія вёскі за непраходнымі балотамі.

Чуткі гэтыя доўга трымаліся, як ранішні густы туман:

— Прыязджаюць прыказчыкі, зноў будуць будаваць маёнткі. Як толькі пабудуюць—вернецца княжна...

Баптысты хадзілі па вёсках, чыталі па вечарох эвангельле, не прапускаючы выпадку, каб не падкрэсьліць;

— Надыйдзе час і разразіцца неба, расступіцца зямля...

Узмацніліся атакі на адзіны ў сельсавеце колгас. Старшыні напісалі запіску і ноччу пакінулі каля дзьвярэй. „Сядзіб не домо. Зьбірай свае лахманы і выкатвай з вёскі, а то будзе горш“...

А праз некалькі дзён у аднаго з калгасьнікаў згарэла хата. І вось тады некалькі чалавек беднякоў падалі заяву аб выхадзе з калгасу. Бедпякі ў сваёй заяве пісалі: „Трэба хутка сеяць, а мы калгасамі займаемся, таму просім выключыць...“

У вёсках нецярпліва чакалі вясны. Чакалі па рознаму, як хто. Калгасьнікі чакалі, каб прадэманстраваць сваімі ўласнымі мазалямі права на існаваньне свайго колгасу. Іншыя-ж гаварылі:

— Вясна пакажа. Пажывём—пабачым.

II

Васіль Аляксеевіч ішоў полем, глядзеў на лясы і вымяраў гаспадарчым вокам, якія багацьці ў іх закладзены, аглядаў палі, ліпкае балота пад нагамі і зьдзіўляўся, успамінаючы сваю нядаўнюю работу. Глядзіць на боты, залепленыя гразьзю і ўспамінае, як гэтыя-ж ногі хадзілі па паркету павятовага партыйнага камітэту, потым павятовага выканкому, па брудных і цесных пакоях канторы буйнага збожжасаўгасу на Сярэдняй Волзе. Вось ён імчыць на кані, па бясконцай раўніне і хтосьці крычыць і махае яму шапкай, да яго вушэй вецер даносіць словы:

— Таварыш дырэктар, да нас заглянеце...

Два месяцы, як Васіль Аляксеевіч і некалькі другіх, ня менш стойкіх і загартаваных людзей, у штаб-хатцы Пятровіча праседжваюць ночы над агаркам сьвечкі.

— Уладзімір Сямёнавіч,—гаворыць Маляўка,—нам патрэбны коні. Ведаеце што, едзьце за конькі.

— Праз некалькі дзён трэба выходзіць у поле...—перапыняе дырэктар і зьвяртаецца да Рудзінскага:

— Як у вас тэхнічныя разьлікі, як балянс рабочай сілы?



Рудзінскі моўчкі падае паперы, у якія праз плячо прагна заглядвае Маляўка.

— Няўжо нам патрэбна столькі рабочых?—ускрыквае Васіль Аляксеевіч.

— Плян-жа мы парашылі перавыканаць у два разы. Вы-ж самі сказалі, што мы павінны засеяць ня 450, а 900 гэктараў.

— Правільна, правільна,—некалькі раз паўтарае амаль шопатам Маляўка.

* * *

Заскрыпелі калёсы па гразкай разьбітай дарозе. Рудзінскі праз ноч адправіўся ў даль за раку, праз нетры лесу за конькі.

І вось праходзіць дзень, другі. Над лесам стаіць агністае красавіцкае сонца. Вось-вось трэба выходзіць у поле, трэба пачынаць работы. Высыхаюць лужыны—сохне зямля. Трава прагна цягнецца да сонца, пухнуць почкі—ідзе гарачая пара... Няма Рудзінскага і няма коняй... Вось прыбылі машыны, угнаеньне, насеньне. Ляжаць на складах далёка за лесам, на станцыі баявыя прыпасы бальшавіцкай вясны. Няма коняй... ня ідуць сяляне працаваць...

— Кінуць?..—нечакана ўзьнікае ў Васіля Аляксеевіча думка.

„Чыстае поле, ды лес і балота. Ніводнага будынку. Няма коняй, інвэнтару, мала, зусім мала людзей. Няма з кім выходзіць у поле. А вясна ідзе, не чакае маіх рашэньняў... Сталовая—важней за ўсё. Як накарміць людзей? Як выканаць плян будаўніцтва, сяўбы?

„Кінуць?

„Але-ж гэта фронт і ня менш важны, чым фронт грамадзянскай вайны. На фронце біўся, на Сярэдняй Волзе будаваў, чаму-ж тут нельга? Бальшавік... Уцячы зможа кожны, а вось паспрабуй узарваць гэту глуш, прывіць у гэтых лясох сапраўднае жыцьцё, узараць, засеяць і зьняць ураджай на пустых, бязродных палёх. Вось тады можна ўцякаць...“

III

На ўскрайку бярозавага гаю стукалі сякеры, зьвінелі і шорхалі пілы. Рэха далёка па лясох разносіла звон. Вырасталі першыя будынкі.

— У першую чаргу нам патрэбны сьвірны. Трэба да сяўбы захаваць насеньне, угнаеньне...

— Але, таварыш дырэктар, мы літаральна гніем. Мяне заелі вошы. Я так далей не магу. Патрэбна жыльлё,—гаварыў адзін рабочы. Сустрэўшыся поглядам з Васілём Аляксеевічам, утупіў у зямлю вочы.

— Вы што хочаце ўцякаць?—запытаў як-бы між іншым дырэктар.

— Не, уцякаць нельга... трэба будаваць,—і чалавек схіліўшы нізка галаву, пашоў кудысьці ў поле на работу...

* * *

Наступаў змрок. Пайшлі падзёншчыкі, што будавалі сьвіран. Павольна зварачаліся з поля рабочыя яшчэ нідзе не адзначанага саўгасу „Чырвоны сьцяг“.

Андрэй Паўлавіч Тупікаў, былы батрак княжны Іванскай, ішоў па дарозе за плугам і марматаў сабе пад нос нейкую вясёлую песьню. Наблізіўшыся да хаткі Пятровіча, ён раптам змоўк. Успомніў зусім выпадкова пачутыя словы дырэктара: „Калі праз тры дні ня будзе гатова памяшканьне, у нас сапсуецца насеньне“. Успомніў і застанавіўся. Потым выпраг коняй і пашоў шукаць брата, у мінулым такога-ж батрака, як і сам.

— Мікола, бяры сякеру,—сказаў да брата Андрэй.—Пайдзем.
— Куды, я спаць хачу? Заўтра трэба ўставаць досьвіткам.
— Падзёншчыкі пайшлі... Ноч, глядзі, якая сьветлая. Трэба канчаць будаўніцтва. Пойдзем, папрацуем да пеўняў, а потым спаць.
Над лесам стаяў поўны, срабрысты месяц і заліваў паляну сьвятлом. Бялелі рыштаваньні, бялела і траслася барада Андрэя. У хацінцы Пятровіча даўно згасла газьніца, спалі моцным сном змораныя людзі.
Мікола нехаця ўзьняўся ўгору за братам, нехаця стукнуў сякерай некалькі раз.
— Навошта гэта нам, Андрэй, ці мы горш за другіх?
Андрэй узьняў галаву, сякера павісла ў паветры. Хацеў нешта адказаць, але змаўчаў. Рэха разьнесла мэталічны звон сякеры і часьцей на зямлю пасыпаліся трэскі.
Унізе невядома адкуль зьявіўся Пятровіч.
— Андрэй, ты што-ж гэта робіш тут уначы? Спаць трэба. Ці за дзень яшчэ не напрацаваўся, а?
Андрэй нібы і не пачуў дзедавых слоў. Поплеч з ім ужо стаяў Мікола. Стукнула бервяно і моцна села ў чашку. Недалёка ад левага кута глянуў месяц у прагаліну. Браты заклаўшы сякеры, узьнялі бервяно і пачалі цясьліць.
Заскрыпелі дошкі рыштаваньняў — узьнімаўся Пятровіч з сякерай. Ён падышоў да Андрэя, запытаў дзе брусок і стаў вастрыць сякеру.
Лягло першае бервяно. На першае паклалі другое, вырас новы вянок.
Андрэй абціраў буйныя кроплі поту з ілба, потым падымаў за верхавіну бервяно і клаў яго адным канцом на рыштаваньне. Мікола і Пятровіч, стоячы на рыштаваньні, падхоплівалі яго і ўсе трое разам цягнулі бервяно на сьціран. Зьвінелі сякеры, хуткія рукі насьцілалі мох, і бервяно садзілася на прызначанае месца.

* * *

Прыклад Андрэя аказаўся дзейсным. Назаўтра на пабудове працавалі ўпецярох: Мікалаеў Паўло, браты Тупікавы і Хамушкін. Ноччу сьціран вырастаў на большую колькасьць вянкоў, чымся днём.
— А ноч-жа якая маленькая!—адзначаў на сьвітаньні Мікола.
Калі на трэці дзень прышлі цесьляры, стаяў амаль зусім закончаны сьціран. У той дзень былі паложаны першыя бярвеньні для пабудовы дамоў і сьвінарнікаў. Адначасова з дамамі для жыльля людзей вырасталі дамы сьветлыя і вялікія для гасьцей, якія павінны былі прыбыць у кастрычніку.
Як прышлі Тупікавы ў саўгас, як яны, два браты, забітыя і цёмныя пастухі, якія праводзілі вясну, лета і восень у полі і зіму на панскіх і кулацкіх кухнях, як яны ператварыліся ў гэрояў працы, у шчыра адданых людзей будаўніцтва вялікай фабрыкі мяса?
На гэта пытаньне амаль не адкажа Васіль Аляксеевіч, а толькі скажа:
— Андрэй Паўлавіч у нас зараз старшыня рабочага камітэту. Ён у гаспадарцы, дый наогул ва ўсім ведае ня менш за мяне.—Спытайцеся ў яго,—і хітра ўхмыльнецца.


**В. Маляўка**
**адзін з арганізатараў саўгасу**


**Ул. Рудзінскі**
**адзін з арганізатараў саўгасу**

— Справа вядомая,—гаворыць Андрэй Паўлавіч.—Спачатку не адважваўся пайсьці ў саўгас. Палохалі так і сяк, што, моў, хлеба не дадуць, плаціць ня будуць, памешчыца вернецца. Ды ці мала чаго гаварылі? Але мне надакучыла валэндацца па чужых хатах. Сёньня працуеш у аднаго, заўтра да другога пойдзеш...
— У калгас чаму ня ішоў?
— Які там колгас? Запісываліся і выпісываліся як у загсе. Зараз іншая справа. Гэта ён мяне сюды зацягнуў,—Андрэй кінуў у бок дырэктара.—Прыстаў да мяне: „ты, моў, батрак, ідзі да нас. Будзеш працаваць, скора кватэру дадуць". Спадабаўся ён мне вельмі, вось і пайшоў. А потым і брата прывёў і шмат іншых. Вы ведаеце, за што я вас палюбіў, Аляксеевіч?—зьвярнуўся нечакана Андрэй да дырэктара.
— Ну, за што?..
І Андрэй расказаў, як у пачатку вясны дырэктар кідаўся па вёсцы Пацкова, прасіў сялян запрэгчы коняй і перавезьці купленую саўгасам у сельсавеце кулацкую хату для сталовай. Коні, якіх у саўгасе было зусім мала, былі загружаны работай на полі.
Перацягнуць хату трэба было тэрмінова. Заможныя серадлякі, падкулачнікі выходзілі на вуліцу, выслухоўвалі прапанову дырэктара і спраўляліся аб цане.
— Колькі-ж заплоціш?
— Заплачу колькі папросіце, колькі работа каштаваць будзе.
— А ты-б свайго каня ў калёсы запрог, чым раскатваць у сядле, дый перавозіў-бы,—кпілі і сьмяяліся ў бараду баптысты. А за вуглом дадавалі:
— Глядзі, пруткі які. Чым ня ўпраўляючы пан? Розьніца толькі тая, што ўпраўляючы езьдзіў у брычцы, а ён вярхом скача...
Не знайшоўшы падводчыкаў, Аляксеевіч запрог свайго каня ў калёсы і прыехаў з Рудзінскім па хату.
— Вось тады я ўбачыў, што гэта ня белая косьць, а такі-ж мужык, як і я, толькі разумней крыху.

## IV

На палёх хвалямі разьліваўся ячмень, бушаваў авёс, як мяцеліца.
— А ведаеце, Сямёнавіч, у нас авёс лепш сялянскага,—гаварыў ідучы з натоўпам рабочых дырэктар.—Паглядзеце, колькі тут зернят? Вось я падлічу—34. Які гэта будзе ўраджай з гэктара? Праўда, менш, чым у мяне ў збожжасаўгасе на Сярэдняй Волзе, але добры, вельмі добры для Беларусі.
— Тав. Хамушкін, заўтра выйдзем?—запытаў і чамусьці густа пачырванеў Андрэй Тупікаў.
— Не, Палыч. Мы ўжо сёньня пакажам ўдаль маладзецкую. На станцыі дэлегацыю чакаў першы пуцілаўскі госьць. Некалькі гадзін таму назад ён грузна зышоў на пляцформу і зараз стаіць, бліскаючы стальлю на сонцы.
Алесь рысьсю падбег да трактара.
— Пасумаваў, нябось без мяне, дарагі—зьвярнуўся ён да машыны, нібыта яна чакала іменна яго. Мы цябе, малойчыка, асядлаем, ой як асядлаем! Ну, глядзі, ну глядзі, не падвядзі.



— Наш, з нашых матэрыялаў—зьвярнуўся Алесь да дырэктара. Чаго толькі адно гэта варта?

Алесь вёў трактар. Ззаду ішла дэлегацыя. Ня гледзячы на гарачае надвор'е, дарога ў лесе была гразкая, на кожным кроку сустракаліся ямы. На дарозе заставаўся вялікі сьлед шырокага кола. Першы сьлед першай машыны ў гэтых малавядомых лясох.

Ускраіна напоўнілася шумам. Мікола, брат Андрэя, скакаў пад гармошку. Моладзь з вакольных вёсак прышла прыбранай, як на вялікае сьвята.

* * *

Жневяры ішлі навыперадкі з трактарам. Хто раней дойдзе да рэчкі—трактар ці серп? Спаборнічалі паміж сабой вязальшчыкі і сам з сабой спаборнічаў Андрэй Хамушкін.

Калі яшчэ на сялянскіх палёх стаяў няўбраным авёс і толькі пачыналі сеяць на зіму жыта—у саўгасе была ў разгары работа па копцы бульбы.

Сотні жанчын радамі ішлі за бульбакапалкамі. Капалкі выварочвалі зямлю. На чорнай зяблі пераліваліся чырвоным і белым колерамі.

— 150 *га* ў 8 дзён. Амаль дваццаць гэктараў у дзень. Дзевяць рабочых на адзін гэктар. Норма—дванаццаць,—нейкай тэлеграфнай мовай заяўляе Рудзінскі.

## V

У верасьні пачалося тое, за што Маляўка, Рудзінскі, браты Тупікавы, Мікалаеў, Паўло Хамушкін у насьціл на бруднай падлозе валяліся месяцамі ў хатцы Пятровіча, мяклі пад даждджом, мерзлі ў сакавіку і гарэлі летам на сонцы.

Месяц назад хатка скончыла сваю гістарычную ролю, адышла на задні плян, яе замянілі новыя, вялікія і сьветлыя пяць дамоў, што, як грыбы ў дажджлівае надвор'е, вырасьлі сярод лесу.

Пад навесамі замест аднэй-двух змучаных кляч, стаіць сотня коняй, паўтары сотні кароў, пяць ужо бачыўшых віды трактараў—гасьцей з гораду Леніна. Сёньня прыбыла першая партыя сьвінаматак у тры сотні штук.

Яшчэ задоўга да атрыманьня гэтых першых гасьцей, былі гатовы сьвінарнікі, падрыхтаваны сьвінары, разьбіты на брыгады, выбраны старэйшыя, і станкі блішчэлі бялізнай, як сьнежны абрус.

Сёньня трактары ўзьнімаюць цаліну, множаць дзесяткі на соткі, упісываюць новыя старонкі ў гісторыю барацьбы колектыву, даводзяць суму да 1.500 *га*. Гэта—сяўба будучай вясны.

Трыста сьвінаматак павінны ператварыцца да канца гэтага году ў пяцьсот, а потым у тысячу.

1000 сьвінаматак!

— У нас ужо ёсьць свой уласны прырост. Мы зараз маем больш чым 150 парасят, з якіх пала толькі адно,—гаворыць на нарадзе старшы сьвінар Мікола.—Барацьба за тону апаросу—наша першачарговая задача—пакуль што выконваецца з посьпехам.

## VI

Мы з Пятровічам ішлі па лесе. Я на станцыю—ён у абыход сваіх лясных багацьцяў.

Пятровіч выцягнуў нагу з балота, чыркнуў запалкай, якую вецер патушыў, ня даўшы разгарэцца. Потым палажыў запалкі ў кішэню і кінуў папяросу.

— У колгасах нашых бываў?

— Не.

— Добрыя колгасы. Нашы трактары ў іх паласуюць зямлю. Іх, брат, у нас цяпер многа—шэсьць. А было?—падумаўшы крыху Пятровіч сам адказаў на сваё пытаньне:

— Нічога ня было,—і радасна расьсьмяўся.

— Ты ведаеш, як усё гэта пачалося?

— Ведаю, гаварылі.

— У маёй хатцы пачалася ўся гэта завіруха. Ох, колькі нацярпеўся Аляксеевіч. Камень, а не чалавек. Ня трэснуў, ня пусьціў ваду пад сябе. Моцны, ах, які моцны!

Пятровіч расказаў нам, як у мінулым яму цяжарам была гэта хацінка, калёсы, конь і надзел зямлі.

— Зразумей, ня хлушу. Жыву лепш, як раней.

Недзе далёка прасьвісьцеў паравоз і рэхам яму адгукаўся посьвіст ветру.

Мы падыходзілі да станцыі, што выглянула з-за зялёнага гаю.

**Агульны выгляд Рублёўскай гідростанцыі**



# ПА САВЕЦКАМУ САЮЗУ



Байцы Армянскай стралковай дывізіі на дэманстрацыі ў дзень сьвяткаваньня 11-ай гадавіны Савецкай Арменіі



II-я сэсія ЦВК СССР 6-га скліканьня. На здымку: старшыні ЦВК СССР т. т. Калінін, Пятроўскі, Мусабэкаў, Чарвякоў.



Масква. Скончана перабудова памяшканьня Паўночнага вакзала, што значна палепшыла абслугоўваньне пасажыраў. На здымку: пасажыры ў пакоі адпачынку.



Магнітабуд. Электразварка конусаў для домны ацельнага цэху стальмоста.




Ленінград. Новы савецкі лесавоз, пабудаваны Паўночнай судабудаўнічай верф'ю.

# МІЛЬЯРД НА ЎЗБРОЕНЬНЕ
## НІ ЦЭНТА БЕСПРАЦОЎНЫМ



1931 год для САСШ зьявіўся годам далейшага паглыбленьня крызісу. Гаспадарка САСШ працягвала каціцца ўніз, скарачаючы сваю вытворчасьць, спыняючы будаўніцтва, выкідваючы ўсё новыя мільёны галодных на вуліцу. Галодны паход беспрацоўных на Вашынгто[н], які адбыўся ў першых чыслах сьнежня, выкліка[ў] у радох амэрыканскай буржуазіі злосьць і сполах. Супроць іх былі мобілізаваны вялізныя паліцэйскі[я]






сілы. Буржуазія цкавала беспрацоўных. Гэты паход быў організаваны компартыяй, і цкаваньне беспрацоўных адначасова суправаджалася цкаваньнем і тэрорам супроць компартыі.

Прадпрыняты ў дэмагагічных мэтах „паход“ гандляроў і дробных фабрыкантаў, які меў сваёй задачай мобілізаваць усе сілы амэрыканскай буржуазіі для барацьбы супроць беспрацоўных, супроць рэволюцыйнага рабочага руху, вітаны Гуврам, не ашукае беспрацоўных. Адначасова з гэтым „паходам“ пачаўся паход беспрацоўных Каліфорніі, супроць якога паліцыя пускала ў ход усе, якія ў яе маюцца, сродкі навядзеньня „парадку“.

„Паход“ пад кіраўніцтвам сьвяшчэньніка Кокса, з аднаго боку, лістападаўска-сьнежаньскі паход беспрацоўных па Вашынгтон, студзеньскі паход на Сан-Франциско — з другога, сьведчаць аб працэсе дыфэрэнцыяцыі клясавых сіл, які ўвесь час паглыбляецца, сьведчаць аб пачаўшымся згуртаваньні сіл сьвядомага пролетарыяту САСШ вакол компартыі, а таксама аб узмоцненай дзейнасьці амэрыканскай буржуазіі ў справе стварэньня фашысцкіх організацый з „масавай“ базай у асобе гандляроў і дробных прадпрыемцаў, якія разарыліся і разараюцца пад уплывам крызісу.

На здымках: зьверху — у штаце Оклагама спалілі пшаніцу на карні. Ніжэй—збожжа пакінута сялянамі ў полі. Адзін бушэль пшаніцы каштуе сялянам адзін долар, а цана на рынку—30 цэнтаў.

У сярэдзіне: удзельнікі галоднага паходу начавалі на шляху да Вашынгтону ў розных пустуючых памяшканьнях.

Унізу: удзельнікі галоднага паходу перад будынкам Капітолія. Урад Гувэра ня прыняў дэлегацыі беспрацоўных і загадаў паліцыі разагнаць іх.

# МІЖНАРОДНЫ КОНКУРС „ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ“

Дэвіз „Тракт“

Задача № 20



Мат у 2 хады

Дэвіз „Зьвязда“

Задача № 21



Мат у 3 хады

Дэвіз „Самалёт“

Задача № 22



Мат у 3 хады

Дэвіз „Motto“

Задача № 23



Мат у 3 хады

# ШАХМАТЫ № 10

**Пад рэдакцыяй Я. Е. КАМЯНЕЦКАГА**

## СОЦСПАБОРНІЦТВА БССР — ЗАХОДНЯЯ ВОБЛАСЬЦЬ

Фізкультурны рух у Савецкім Саюзе пашыраецца з кожным днём. Фізкультура прасоўваецца і ў саўгасы і колгасы. Шахматы і шашкі — неразрыўная частка фізкультуры—пашыраюцца значна слабей. Гэта становішча мы павінны ў бліжэйшы час ліквідаваць.

У той час, калі мы маем рэспублікі, вобласьці, раёны, гарады, дзе шахматна-шашачная праца стаіць на вышэйшай ступені — вузорныя ўдарныя шахматна-шашачныя гурткі-брыгады на прадпрыемствах, мы маем і такія раёны, дзе няма ніводнага гуртка, дзе кажуць: „шахмацістаў у нас няма“.

Разумеецца такая зьява нікуды ня варта, але яна застаўляе нас біць трывогу, што ў некаторых мясцох існуе недаацэнка шах.-шаш. працы, што ў некаторых мясцох байкі аб дэградацыі не атрымоўваюць патрэбнага адпору.

20 сьнежня ў гор. Смаленску заключана ўмова на соцыялістычнае спаборніцтва паміж БССР і Заходняй вобласьцю, па выкліку апошняй, на лепшую пастаноўку працы з шахматамі і шашкамі. Гэта ўмова мае вялікае значэньне як для БССР, так і для Заходняй вобласьці.

У БССР за апошні час у сувязі з добрым кіраўніцтвам ВСФКБ і ЦСПСБ мы маем значны зрух у шахматна-шашачнай працы; у Заходняй вобласьці з-за адсутнасьці кіраўніцтва згубілі той актыў, якой яны мелі 2—3 гады назад.

Аднак нельга гаварыць, што ў БССР на гэтым фронце ўсё добра: ні ўводнай раённай газэце няма друкаваных шах.-шаш. аддзелаў. Не на ўсіх буйнейшых прадпрыемствах маюцца шахматна-шаш. гурткі, няма гурткоў у колгасах і саўгасах.

Умовай ахоплены ўсе галіны шах.-шаш. працы. З боку БССР умову падпісала менская каманда шахматыстаў, у складзе т. т. Мазэля І., Верасава, Насьцюшонка, Камянецкага, Майзэля Ю., Мазэля Л., Гаві і Кейлеса, якая 20-га і 21 сьнежня з'іграла матч з Смаленскам.

Вынік гэтага матчу сьведчыць аб тым, што ўзровень ігры менскіх шахматыстаў значна ўзрос. Смаленчане, якія ў 1927 г. выйгралі ў Менска з перавагай на ачко, прайгралі гэты матч з вынікам—14 + 2.

Вынікі па дошкам наступныя:

| №№ дошкі | МЕНСК | Вынік | №№ дошкі | СМАЛЕНСК | Вынік |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Мазэль | 11 | 1. | Ушакоў | 00 |
| 2. | Верасаў | 11 | 2. | Кавалеўскі | 00 |
| 3. | Ю. Майзэль | 1½ | 3. | Аглаблін | 0½ |
| 4. | Насьцюшонак | 11 | 4. | Гізэ | 00 |
| 5. | Гаві | 11 | 5. | Каплан | 00 |
| 6. | Л. Майзэль | ½0 | 6. | Шырокаў | ½1 |
| 7. | Камянецкі | 11 | 7. | Сіціцкі і Штэйнбух | 00 |
| 8. | Кейлес | 11 | 8. | Левіто | 00 |
| | Разам | + 14 | | Разам | + 2 |

Комэнтары не патрэбны: вынік сам за сябе кажа, што сіла менскіх шахматыстаў даволі значна.

Трэба зазначыць, што пройгрыш Майзэля, атрымаўся з-за няправільнага ходу гадзіньніка.

## РАЗЬВЯЗКІ ШАХМАТНЫХ ЗАДАЧ

**(„Чырвоная Беларусь“ № 16)**

### ЗАДАЧА № 9

Дэвіз „Піонэрская“

(З ладзьдзёй b6 на b5)

1. f2—f3! пагражае 2. d3—d4 ×

Галоўны варыянт 1... Kf6—d5, 2. Фc4—e4 × з разьвязваньнем чорнай пешкі і белага фэрзя ўтварае вельмі добрае ўражаньне. Да яго дабаўлен 2 варыянт з разьвязваньнем б. фэрзя і блакіраваньнем.

1. ... d6—d5, 2. Фc4 : f4 ×. Ня дрэнны і астатнія ігры:

1. ... f4 : g3, 2. f3—f4 ×;

1. ... Ch2—g1, 2. g3 : f4; 1. ... Kg7—f5, 2. Kh6—f7 ×.

### ЗАДАЧА № 10

Дэвіз „14 кастрычнік“

1. Cc8—g4! пагражае 2. g2—g3 ×
1. . . . . . Фc4—d3 + 2. Kd6—b5 ×!
1. . . . . . Фc4 : f3, 2. Kd6—f7 ×!
1. . . . . . Cd4 : f2, 2. Kd6—f5 ×!

Гэта задача праводзіць навейшую ідэю „комбінацыі ў спробах“. Чаму, скажэце, нельга на 1. . . Фe4—d3 шах адказваць 2. Kd6—c4.

— Таму што зьвязаны слон чорных, пасьля такога ходу будзе разьвязан і сумее згуляць 2. . . Cd4—e5 і мата „нет как нет“.

А таму нельга на 1. . . Фe4 : f3 адказваць 2. Kd6—e4 і на 1. . . Cd4 : f2, 2. Kd6—c4 з-за 2. . . Фe4—e5.

Цікава!

# АДКРЫТА ПАДПІСКА на ўсе ЧАСОПІСЫ

## ДЗЯРЖАЎНАГА ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ

1932

## МАЛАДНЯК

Орган Бел'АПП'у. Штомесячны літаратурны, мастацкі і крытычны часопіс

**„МАЛАДНЯК“** 12 нумароў у год

Часопіс „Маладняк“ на сваіх старонках друкуе лепшыя творы пролетарскае літаратуры

ПАДПІСНАЯ ЦАНА

на 1 год . . 6 р. — к.
„ 6 мес. . . 3 „ — „
„ 3 „ . . 1 „ 50 „

## ПОЛЫМЯ

Орган Беларускай фэдэрацыі аб'яднаньняў савецкіх пісьменьнікаў

**„ПОЛЫМЯ“** 12 нумароў у год

„Полымя“ знаёміць з дасягненьнямі мастацкай літаратуры і дасягненьнямі літаратуры іншых народаў

ПАДПІСНАЯ ЦАНА

на 1 год . . . . 12 р.
„ 6 мес. . . . 6 „
„ 3 „ . . . . 3 „

## ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

Масавы ілюстраваны двухтыднёвы часопіс

**„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“** 24 нумары у год

„Чырвоная Беларусь“ праз мастацкае слова і малюнак ілюструе рост і разьвіцьцё соцыялістычнага будаўніцтва БССР і ўсяго Савецкага Саюзу

ПАДПІСНАЯ ЦАНА

на 1 год . . 3 р. — к.
„ 6 мес. . 1 „ 50 „
„ 3 „ . . — „ 75 „

## КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

Орган НКА і ЦП Саюзу працасьветы

**„КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“** 12 нумароў у год

Часопіс асьвятляе ход практычнай рэалізацыі пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе. „Ком. Выхаваньне“ асьвятляе пытаньні політэхнізацыі школ і ўсенавучу, ліквідацыі няпісьменнасьці, работы політасьветных устаноў. Шырока асьвятляе пытаньне мэтодычнай работы школ і аказвае практычную дапамогу настаўніцтву; асьвятляе і падагульвае вопыт і практыку работы ўзорных школ

ПАДПІСНАЯ ЦАНА

на 1 год . . . . 8 р.
„ 6 мес. . . . . 4 „
„ 3 „ . . . . . 2 „

## КНІГА МАСАМ

Орган Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі Беларускай кніжнай палаты

**„КНІГА МАСАМ“** 12 нумароў у год

„Кніга Масам“ дае дасканалыя ацэнкі ўсёй выходзячай з друку продукцыі выдавецтваў БССР. Раіць чытачу, што чытаць, дае рэкомэндацыйныя сьпісы і ставіць пытаньні бібліотэчнай і выдавецкай справы, дапамагае маладым аўтарам, разьлічана на кніжных работнікаў, бібліотэкараў, настаўнікаў і наогул працаўнікоў культурнай рэволюцыі. Кожны нумар яшчэ будзе мець дадаткі: рэкомэндацыйны бюлетэнь бібліографічнага бюро Белдзяржбібліотэкі і летапіс друку БССР

ПАДПІСНАЯ ЦАНА

на 1 год. . 3 р. 60 к.
„ 6 мес. . 1 „ 80 „
„ 3 „ . — „ 90 „

Летапіс і рэкомэндацыйны бюлетэнь (без часопісу) на 1 год . . 2 р. 50 к.

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** усімі гарбюро і райбюро Саюздруку, паштовымі агенцтвамі і лістаносцамі усімі кнігарнямі Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі і яго ўпаўнаважаным;

Друкарня імя Сталіна 7500 экз. Зак. № 259 Галоўлітбел № 1031.